Цана асобнага нумару 15 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 25 (76). Вільня, Серада 16 Сакавіка 1927 г. Год III.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі

ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## НОВЫЯ ЎДАРЫ.

Ня гледзячы на канстытуцыю і асобныя, нібы яе дапоўніўшыя языковыя ўставы, Беларусы не маглі дабіцца дзяржаўных пачаткавых беларускіх школаў. Як аб гэтым сьведчаць сотні фактаў, адміністрацыя і школьныя ўлады заўсёды ламалі ўставы, каб не адчыніць беларускае школы. Страціўшы ўсякую надзею і веру ў добрую волю ўладаў, беларускае грамадзянства пачало дамагацца прыватнае беларускае школы, але-ж тут ізноў паказаў свой „вялікі нос“, той польскі прынцып, які служыць аружжам змаганьня з беларускім нацыянальным і культурна-асьветным рухам. Гэты „шырокі“ прынцып выяўляецца ў тым, што кожны раз улады находзяць такую прычыну, не абаснаваную на факце, згодна якое даюць адмоўны адказ на ўсе захады беларускіх арганізацыяў і грамадзянства.

І гэтак—ня даўшы паўстаць беларускаму пачаткаваму школьніцтву,—на падставах языковых уставаў зьнішчыўшы да рэшты яго ўжо істнаваўшы пачатак, улады ўзяліся за сярэднія беларускія школы, якія не атрымліваюць ад ураду ніякіх дапамог.

Беларуская Гімназія ў Вільні гэтымі днямі атрымала загад, якім з прычыны „неблаганадзёжнасьці“ звальняюцца з гімназіі з канчаткам бягучага школьнага году пяць беларускіх пэдагогаў.

Аднача‌сна Беларуская Гімназія ў Радашковічах, атрымала паведамленьне, што дадзеная ей канцэсія, з канцом гэтага школьнага году канчаецца, а таксама, што па тэй самай прычыне—„неблаганадзёжнасьці“ звальняюцца тры пэдагогі.

Гэтыя новыя ўдары па беларускаму школьніцтву зьяўляюцца для нас, Беларусаў, вельмі балючымі і забойчымі, дык ясна, што мусімо рэагаваць на іх самымі станоўчымі і вострымі пратэстамі.

Сьмяротная гэтая забойчасьць для нашага школьніцтва тут ня ў пэўных асобах, а ў тым прынцыпе, якога трымаецца польскі ўрад у адносінах да Беларусаў. Уся сутнасьць справы ў тым, што звальняюцца пэдагогі з беларускіх гімназіяў бяз ніякіх фактаў, а толькі дзеля нейкіх дагадкаў, а ці ўбачым іх сэнс дык і нявядама!

Гэтакія рэчы як закіды ў „неблаганадёжнасьці“ падлягаюць кампэтэнтны[і] суду, але-ж як мы бачым, дык робіцца гэта паміма ўсякіх кампэтэнцыяў, а толькі на дапушчэньня ды на згадках рэпрэзэнтатараў польскае дзяржаўнасьці... Калі звальняюцца з гімназіяў 8 пэдагогаў без фактаў і падрабязных матываў, дык гэтак сама ня будуць зацьверджаны і тыя пэдагогі, якія будуць выстаўляны кандыдатамі замест звольненых.

Тут ізноў пойдзе ў далейшы рух тая мэтода, якая мела месца пры захадах аб пачаткавае школьніцтва. Заўсёды будуць людзі, калі лёяльныя, дык з нястачай кваліфікацыяў, а калі з кваліфікацыяй, дык не лёяльныя, бо гэтак гэнае зачараванае кола кацілася праз усе папярэднія захады перад уладамі; гэтак, як бачым, пакоціцца яно і далей...

Дык вось, у вышэй пададзеным—тая жорсткасьць і несправядлівасьць польскага ўраду ў адносінах да нас, Беларусаў, якімі зьністажаецца і ліквідуецца беларускае школьніцтва.

Гэты новы ўдар польскага „санацыйнага ўраду“ скіраваны проці Беларусаў мы можам спаткаць толькі крыкам пратэсту. Гэты новы ўдар польскага ўраду, падтрымліванага т. зв. польскай дэмакрацыяй, мы можам спаткаць толькі такой падзякай, на якую ён заслужвае. Гэтую падзяку выявіць яшчэ ня раз наш Народ... Гісторыя будзець сьведкай.

Выказваючы гэтыя жудасна балючыя сказы мусім сканстатаваць, што ніякія драконскія загады і распараджэньні ня спыняць беларускага адраджэнскага руху. Усё тое, што раз народзіцца расьце толькі ўзвыш, бо такі вышэйшы закон. Гэтаму закону падлягае і беларускі нацыянальны рух і ніякія меры часовых урадаў ня зьністожаць гэтага руху.

Усякая барацьба пашкодзіць толькі польскай дзяржаве, бо выкліча антаганізмы і забурэньні, якія яшчэ ня згладзіліся ў нашай памяці, а таксама паглыбіць тую прорву, якая і бяз гэтага істнуе паміж польскім урадам і Беларусамі.

## Яшчэ аб зямельнай рэформе.

Зьяўляючыся прадстаўнікамі беларускага сялянства і змагаючыся з сучаснымі цяжкімі ўмовамі сялянскага жыцьця, мы кожны раз, калі толькі якія правы датыкаюць зямельнага пытаньня, падаем сваё сялянскае слова, перадусім, дзеля таго, каб нашае сялянства было асьвядомлена аб палажэньні зямельнае рэформы і аднача‌сна дамагалася сапраўднай зямельнай рэформы, пераходу зямлі бяз выкупу ў працоўныя рукі.

На іншым месцы мы падаем прамову міністра зямельных рэформаў п. Станевіча, якую ён сказаў у сэнаце ў часе разгляду бюджэту, а на гэтым месцы хочам крытычна глянуць на плян працы міністра.

У сваёй прамове п. Міністар адзначыў, што ў Польшчы вёска пералюднена, а знача трэба, гэтых лішніх людзей, з вёскі пераслаць на фабрыкі; але ізноў бяда, бо фабрыкі не патрабуюць работнікаў. Гэтак гаворачы п. Міністар забыўся, што калі вёска пералюднена, дык на гэта ёсьць рада, разумеецца) іншая ад тэй „фабрычнай“ якую прапануе п. Міністар. Поруч з вясковаю цяснотаю істнуюць абшарніцкія прасторы, разам з вясковаю гушчынёю ляжаць абшарніцкія пустоты і калі гэтыя пустоты і прасторы адкрыць для вясковай гушчы і цесematы, дык засяленьне акурат стане нармальным. Ня трэба ламаць галавы вышукваючы месца, каб пазбыць селяніна з вёскі, гэтае месца ёсьць перад вачыма пана міністра, гэта: бязумоўная і неадложная парцэляцыя абшарніцкіх зямель па прынцыпу без выплаты і выкупу, паміж сялян тых вёсак, да якіх прылягаюць гэтыя абшары. Мы знаем умовы і абстявіны сялянскага жыцьця і гушчыню вёскі ня горш чым п. міністар і ня горш разумеем палажэньне польскае прамысловасьці, а дзеля гэтага цьвердзім, што намеры пана міністра ня маюць пэрспэктывы на зьдзейсьненьне. У гэтым лятуцьньні, мы бачым націск на міністра з боку абшарніцкае клясы, якой сьмяротна страшна разлучыцца са сваімі багатымі прасторамі. Але добра ведаем, што чым далей адцягваецца зямельная рэформа, тым болей прыбывае пары ў вясковым катле і можа прыйсьці час, калі ніякі абшарніцкія абручы ня ўтрымаюць, і тагды, кацёл гэты лопне, а выбух зробіць сваю катастрафальную рэформу. Гэтым мы нікога ня пужаем толькі зьвяртаем увагу адпаведных дзейнікаў, каб яны ведалі, што трэба загадзя адхіліцца ад месца катастрофы. Гэтым адхіленьнем можа быць толькі правядзеньне радыкальнае зямельнае рэформы.

Польскія ўрады, ігнаруючы беларускае сялянства імкнуцца коштам апошняга, задаволіць частку польскага сялянства, а дзеля гэтага падтрымоўваюць асадніцтва і калёнізацыю нашых зямель. Але ўсяроўна гэтым нічога не направіцца, бо калёнізуючы беларускія землі павялічваецца толькі гушчыня насяленьня ў Заходняй Беларусі, а гэта можа толькі прысьпяшыць час катастрафальных падзеяў.

Навучаныя папярэднімі фактамі і досьледамі, мы разумеем, што польскае абшарніцтва ніколі не перакана‌ецца ў праўдзівасьці нашага слова, затое мы маем пэўныя надзеі, што сялянская маса голас наш пачуе і прыме яго горача да свайго чулага сэрца.

## Праклён бядам і ліхам!

Праклён бядам і ліхам, голадам, няволям,
Праступкам, што зло родзяць, забіваюць брата,
Усім разьням і войнам, выступленьням ката,
Усім жыцьця атчаям, сьлёзам і нядолям!

Праклаьцье ўсім магутным, што на зло наводзяць,
У блуд, брыду ўпіхаюць—цёмныя махлярствы!
Праклаьцье уніжэньням, што ствараюць
[лгарствы,
Што літасьці жабруюць, на каленьнях ходзяць!

Усім абманам, цемрам—сланым пад прымусам,
Усім разчараваньням, усім на зло пакусам,
Усім пакусам, што дуру свайго льюць паняцьце,

Што робяць ланцугі, петлі ды астрогі —
Чым брат зьнішчае брата, зьбітага з дарогі,
Усім нягодным мэтам—праклаьцье і праклаьцье!

*Г. Л.*

## Пад бел-чырвона-белы сьцяг!

Пад бел-чырвона-белы сьцяг
Лучыцеся, сяляне!
Тагды для ўсіх гаротных нас
Час вольнасьці настане!

Даволі ўжо цярпелі мы
Ўсіх зьдзекаў і прымусаў,
Даволі мучыў вораг нас,
Гаротных Беларусаў!

Прачнісь магутны наш Народ,
Пратры як сьлед Ты вочы,
Сам выйдзі ў сьвет і Беларусь
Вызваль Ты з цемры ночы!

Пад бел-чырвона-белы сьцяг
Лучыцеся сяляне,
Тагды для ўсіх гаротных нас
Час вольнасьці настане!

*С. П.*

## У Праскім Культурным Т-ве ім. Фр. Скарыны.

З паміж раду рэфэратаў, чытаных за апошнія часы ў Беларускім (Крывіцкім) Культурным Таварыстве ім. Фр. Скарыны ў Празе, трэба адзначыць два рэфэраты сябры Т-ва Т. Грыба: „Нацыя і дзяржава“ ад 5 лютага г. г. і „Культурнае і гаспадарчае становішча Зяходняе Беларусі“—25-га лютага г. г.

Ня спыняючыся над разглядам першага рэфэрату, які быў навукова ўгрунтаваны (зьяўляецца выбарнай з дысэртачнае працы), трэба адзначыць, што другі рэфэрат „Культурнае і гаспадарчае становішча Заходняе Беларусі“ быў якраз на часе ў Культурным Т-ве. Зразумела, што зацікаўленасьць сяброў рэфэратам, маючым часткова ўкосную сувязь з апошнімі падзеямі ў Заходняй Беларусі, была вялікая, што сказалася ў дужа значнай лічбе прысутных.

Рэфэрэнт, у кароткім, але зьмястоўным нарысе культурна-вызваленчае працы ў Зах. Беларусі, абапёртым на навейшых статыстычных матэр'ялах, паказаў прысутным яскрава той ненармальны стан, у якім змушаны Беларусы вясьці сваю працу на ніве культурна-гаспадарчага будаўніцтва. Пасьля рэфэрату адбыліся, як і заўсёды, дыскусыі і мена думак, у якіх выявіліся настрої і пагляды сяброў у адносінах да апошніх падзеяў на беларускіх абшарах пад Польшчай. Усе сябры з вялікім абурэньнем канстатавалі, што польская палітыка скіравана перадусім супроць нацыянальна-культурніцкага руху, а разгром культурных і гаспадарчых установаў, а таксама апошнія арышты беларускае інтэлігенцыі, як вынік гэтае палітыкі. Потым была прынятая сябрамі Бел. Культ. Т-ва рэзалюцыя, якая пратэстуе проці бязупыннага і сыстэматычнага перасьледаваньня беларускага адраджэнскага руху польскімі ўладамі.

# З жыцьця пад Польшчай.

### Зьмена выбарнага закону.

У канстытуцыйнай камісіі сойму праекты зьмены выбарнага закону рэфэруе пасол Гломбінскі. Дык вось, як мы ўжо падавалі ў папярэднім нумары, гэты рэфэрэнт запрапанаваў пяты праект, але-ж гэты праект зрабіў вялікае і не карыснае для правай соймавай рэпрэзэнтацыі ўражаньне. Урадавыя колы і прэса блізкая да ўраду выяўляюць незадаваленьне з гэтага „Гломбінскага“ праекту.

І праўда, старая хіена збанкрутавала, дык цяпер адчуваючы гэта, хоча ўтрымаць лейцы ў сваіх руках, а дзеля гэтага карыстаючыся з таго, што іх большасьць рэпрэзэнтуе Сойм, стараецца апрацаваць гэткі выбарны закон, каб ніхто, акрамя іх не папаў у сойм пры новых выбарах.

Згодна з праектамі аб зьмене выбарнага закону, хіена дамагаецца, каб пры новых выбарах на долю нацыянальных меншасьцей на беларускіх і ўкраінскіх землях ахвяраваць толькі $^{1}/_{3}$ частку пасольскіх мандатаў, а польскім партыям падараваць рэшту, знача—$^{2}/_{3}$, хаця-ж пры папярэдніх выбарах да Сойму і да Сэнату ў некаторых выбарных акругах няпольскія сьпіскі кандыдатаў атрымалі ўсе галасы.

Памі-ж іншым цікава зацеміць словы павадыра эндэцыі Рамана Дмоўскага, які катэгарычна заявіў, што ісьці са старымі законамі на выбары нельга. І праўда, — дадамо мы: калі адбудуцца выбары, дык табе, мілая эндэцыя, ня выйграць...

### Аб зьмене выбарнага закону.

Канстытуцыйная Соймавая Камісія на паседжаньні 11 г. сакавіка прыступіла да далейшага разгляду праектаў зьмены выбарнага закону да сойму.

Першы прамоўца пасол Кронінг (Немец) выступіў з вялікаю прамоваю, якою пратэставаў проці польскіх праектаў.

Пасьля пасол Недзялкоўскі запрапанаваў адлажыць паседжаньне камісіі, дзеля таго, каб атрымаць апінію маршалка Сойму і канвэнту сэньёраў аб ўсіх праектах зьмены выбарнага закону, бо ўсе пяць праектаў, устанаўляючы курыяльную сыстэму выбараў, ломяць канстытуцыю, якая забесьпячае роўнасьць для ўсіх.

Гэтую прапазыцыю падтрымалі нацыянальныя меншасьці.

Старшыня камісіі пас. Гламбінскі, заявіў, што ня відзіць прычыны на адкладаньне паседжаньня, дзеля таго, што толькі Сойм мае права ўстанавіць—ці праекты зьмены выбарнага закону пярэчаць канстытуцыі ці не.

Пасьля гэтага прадстаўнікі нацыянальных меншасьцей, а нават і прадстаўнікі левых польскіх клюбаў пакінулі паседжаньне камісіі.

Ня гледзячы на гэта, паседжаньне камісіі адбылося, на якім прынята першы артыкул праекту, якім устаноўлена, што паслоў у будучым Сойме павінна быць 300.

Далей прынята прапазыцыя эндэкаў—не тварыць асобных нацыянальных групаў, а імкнуцца да забесьпячэньня польскае рэпрэзэнтацыі цераз тэрыторыяльнае павялічэньне выбарных акругоў. Дзеля апрацаваньня гэтае прапазыцыі пастаноўлена стварыць адумысную камісію, якая павінна знайсьці спосаб забесьпячэньня прадстаўніцтва ў новы Сойм эндэцка-хадэцкай большасьці.

Пасьля гэтага на паседжане камісіі зьявіўся пас' Палякевіч, які заявіў, што маршалак Сойму па нарадах з нац. меншасьцямі і левымі польскімі клюбамі, прыхіліўся да іх пратэсту і згаджаецца адлажыць паседжаньне канстытуцыйнае камісіі, каб выясьніць сытуацыю. Гэтакім чынам паседжаньне камісіі старшыня пасол Гламбінскі мусіў зачыніць.

### Прамова міністра Станевіча.

Міністар зямельных рэформаў Станевіч у часе разгляду сэнатам бюджэту міністэства зямельных рэформаў 7 г. м. ў сваей прамове адзначыў, што: сутнасьцю зямельнай справы ў Польшчы ёсьць перанасяленнасьць вёскі. Толькі зямельнай рэформай, гэтага ня зможам зьмяніць. Вырашэньне гэтага пытаньня залежыць ад разьвіцьця местаў і прамысловасьці, але з другога боку немагчыма прысьпяшыць разьвіцьцё прамысловасьці, калі перад гэтым ня вытварым адпаведных унутраных рынкаў збыту. Гэтакі ўнутраны рынак можа паўстаць толькі цераз скамасаваньне сялянскіх гаспадарк і павышэньне іх. Дзеля гэтага на першы плян высоўваецца справа камасацыі, якое ня можа правясьці без папярэдняй прырэзкі зямлі.

Адносна цаны на зямлю, дык лішняе паніжэньне яе ёсьць шкодным ня толькі для дзяржавы, але-ж і для самых масаў, для якіх ведама і адбываецца парцэляцыя.

Што датычыць калёнізацыі на ўсходзе, дык гэта можна будзе з часам учыніць, але-ж пакуль сягнуць туды па зямлю, дык трэба там наперад упарадкаваць зямляробскую структуру.

### Аб польскім манархізме.

Саюз абшарнікаў і іншыя буржуазныя клясы, шукаючы сабе ратунку ад радыкальных настрояў сялянства і работнікаў, якія пагражаюць ім падзелам іх маемасьці, на карысьць працоўнага народу, бачаць гэты ратунак у жалезнай уладзе. У гэтых мэтах прадстаўнікі буржуазных клясаў у Сойме, якія маюць там большасьць, гэтак ахвотна даюць рожныя паўнамоцтвы п. Прэзыдэнту, але-ж гэтага ім мала: яны хочуць замест Прэзыдынта мець караля. Ім здаецца, што кароль, будучы іх прадстаўніком, зьліквідуе радыкалізм сялянства і работкаў. Буржуазія ня хоча зразумець, што той радыкалізм, які ахапіў працоўныя масы ёсьць рэзультат сацыяльнай несправядлівасьці і матэрыяльнай няроўнасьці тагды, калі адзін у пышных палацах што дзень заводзіць баль, дык другі ня можа запрацаваць на кусок чорнага хлеба.

### „Вольнасьць“ сумленьня.

Сучасны віцэ-прэм'ер Бартэль, будучы кіраўніком міністэрства асьветы і рэлігіі, выдаў распараджэньне, якім загадываецца, каб вучні адбывалі споведзь у працягу году тры разы. Проці гэтага распараджэньня у сойме паўсталі пратэсты; адказваючы на гэта сучасны міністар асьветы і рэлігіі пан Дабруцкі заявіў, што ўведзена трыразовая споведзь вучняў згодна з традыцыяй Польшчы, але-ж гэты прымус не зьяўляецца нарушэньнем вольнасьці сумленьня, бо ня будзе тасавацца да тых вучняў, якія не захочуць спавядацца. Паўстае пытаньне: на што-ж выдаваць гэтакае распараджэньне, калі няма пэўнасьці, яго выканаць?



# Маленькі фэльетон.

## Я ня я, і хата не мая...

Пан Антоні Спрытны — заплечны кіраўнік газэты—толькі што праснуўся... Працёр свае вочкі, прыплюшчыўся і, азірнуўшы па пакоі, тыц у люстра...

— Тфу! Мразь якая! — падумаў ён убачыўшы ў люстры сваю абразіну — твар бляды, вочы бегаюць, быццам зрабіў нейкую подласьць і баюся сам сабе паглядзець у вочы... І суменьне, здаецца, маю чыстае, а табе — які выгляд!.. Тфу! Згінь ты — прападзі! — ужо амаль-што ня голасна вылаялаўся — а ўсё сам!... І палаяўся з усімі, і пасварыў усіх паміж сабой!.. А як толькі што — дык: я ні я, і хата не мая!.. Вось кумпаноў арыштоўвалі, а я сабе бегаю, дый быццам нічога не ведаю... Як раз, як тады, як была справа „33-х“...

— Хітры панок! — пагразіў сам сабе ў люстры...

А ў другім у суседнім пакоі, дзе служанка ўжо закачвала прыборку, апрача адказнага рэдактара яшчэ ня было нікога... Але рэдактар быў нейкі нясупакойны... Расхажваў па пакоі і зіркаў усё на ўваходныя дзверы...

— Чорт яго ведае гэтага эсэра! — думалася яму — як прыдзе, як хлясьне!... А кулак мае — во-о, што 5-ці кілёвая гіра!... Адказвай тутака!.. Так і скажу шэфу, што няхай адказвае той, хто піша...

І ён рашуча падняўся і пастукаўся да шэфа...

— Пане шэф! Пільная справа ёсьць!...

— Аа! гэта вы, панок?! .. Як маецеся?! — паказаўся шэф—і што гэта за пільная справа—можа газэту сканфіскавалі?...

— Сканфіскаваць, то сканфіскавалі... але выпусьцілі ўжо новаю. .

— Ужо новаю?!... Ну малайчына вы!...

— Ня ў гэтым справа, пане шэф...

— Што можа нашых звольнілі?!...

— Не!... Дзе там!...

— Дык ня дай Божа — можа „Сельсаюзвікаў“ ці „Хадэкаў“ заарыштавалі?!...

А вам не хацелася-бы?!... Не!... Чорт іх ня возьме!...

— Дык „Chatka białoruska“ можа збанкрутавала са сваёй „świetlno-kolorowej“?!..

— Не!... Новаю філію адчыняюць у Горадні...

— Ну дык я і не разумею!... Нарэсьце можа Татулька?!...

— Вось, як раз, справа ў ім — тэрмін скончыўся, і ён зараз зьявіцца... А кулак ягопы?! Во-о! Што гіра тая 5-ці кілёвая!...

— Што?! — Замітусіўся Антошка — тэрмін скончыўся?!... Алёна, Алёна!.. Хутчэй сюды — закрычаў ён на служанку...

— Калі прыдзе тутака адзін пан — твар гэтакая ў яго вялікая, а нос у вуграх і як бульба...

— А кулакі такія аграмадныя і із рота нясе гарэлкай — дадаў рэдактар...

— А-а! — ўскрыкнула служанка — ці ня гэта той самы пан, што у „Маланцы“ усё у „Бар Крэсовы“ зьбіраецца!...

— Ага, ага!... Ён самы!... Дык, як прыдзе і будзе мяне пытацца — скажы, што мяне няма ў хаце... Не!... Ляпей па'т скажы, што выехаў і няведама куды, няведама калі вярнецца...

— А калі мяне спытаецца — умяшаўся рэдактар — дык скажы, што газэту сканфіскавалі, а мяне арыштавалі...

— Дык можа сказаць, што і пана шэфа заарыштавалі?!...

— Не! Не паверыць—ён не такі дурань...

— Ну ідзі, ідзі,.. і добра такі даглядай...

У гэты момант адчыніліся дзьверы і ўвайшлі сэкратар рэдакцыі і адзін з супрацоўнікаў „Нашых Спраў“...

— Пану шэфу чэсьць і слава — прывіталі ўвайшоўшыя...

— Паклон — паночкі — паклон!... Сядай-

# Да нас пішуць.

### Пэпэасаў гоняць.

(Вострава, Баранавіцкага пав.).

У нашу вёску ў 1926 годзе прыяжджалі прадстаўнікі ад ППС. Заклікалі яны нас да запісі ў сваю партыю, казалі што вымагуць нам зямлю і школу і за сяброўскі білет бралі па 2 злотых. Прайшоў 1926 год, а зямлі там не прыбавілася; ППС-ы ізноў да нас заглянулі дый зноў хацелі ўсунуць нам двухзлатовыя сяброўскія білеты. Але мы ім падзякавалі; паехалі яны з тым, з чым прыехалі. Барадіч.

### З нашага гнязда.

(Воранава, Лідзкага пав.).

Каля Воранава зямелька ніштаватая; меўшы яе трохі можна есьці хлеб без бяды. Шкода, што ў нашага сялянства яе вельмі мала, або саўсім няма. Двароў у ваколіцы ёсьць вельмі шмат. Некаторыя з іх, асабліва тыя, што калісь належалі да даўнейшых расейскіх абшарнікаў, распарцэляваны дзеля асаднікаў з Галіцыі. Ад падаткаў і іншых зьяваў гаспадарскага ўрадавага характару блага прыходзіцца селяніну Беларусу. Бяднейшае сялянства вядзець жыцьцё проста жудаснае, як ужо ня раз пісалася ў нашай газэце. Разглядаючы паасобна грамадзянства тутэйшай ваколіцы, трэба сказаць, што найбольшы лік прыпадае на Жыдоў, ёсьць двух сялян Палякаў, Беларусаў частка малая, але ўсе сьведамыя нацыянальна і сацыяльна. Па рэлігіі большасьць каталікі. Есьць двух ксяндзоў Палякаў і некалькі вучыцялёў Беларусаў, якія вучаць папольску дык і лічаць сябе Палякамі і ня хочуць прызнавацца да свайго народу. Брыдка гэта і нядобра чурацца свайго паходжаньня і выракацца свайго народу. Мы Беларусы павінны глядзець на гэткіх асобаў, як на нядобрых і нясумленных, а такіх шмат ёсьць у Заходняй Беларусі.

Superbus.

### Пажар.

У мястэчку Клецку, Нясьвіскага павету, дня 19 лютага г. г. з суботы на нядзелю ў 8 гадзін вечара быў пажар. Згарэла гумно і хлеў. У вагні засталася двое коняў (цаною 200 руб. зол. за кожнага) і тры каровы. Сьвіней выпусьцілі і аднаго абгарэлага каня, якога на другі дзень камандант пастарунку застрэліў. У гумне гаспадара згарэла ўсё збожжа і харч. Гаспадар панёс вялікую страту. Цяпер у гаспадара засталася толькі адна старэнькая хата і то дзякуючы пажарнікам з вёскі Бабаявіч, бо пажарнікі з мястэчка Клецка толькі бегалі, крычэлі і выбівалі крукамі ў хаце вокны. Вось як ратуюць ад пажару людзей нашыя клецкія пажарнікі.

Дзяцінства.

### П'янства ня спыняецца.

(м. Радашкавічы).

Здаваляся, што калі падаражэе гарэлка, то людзі перастануць яе піць. Але, як аказалася, п'янства не паменшылася, ды наадварот, пабольшылася. Некаторыя апошні пуд хлеба прадаюць, або заробленую крывава капейку і ўсё на гэту „праклятую гару" аддаюць, змушаючы гэтым самым цярпець голад і холад сваю сямейку. А колькі-ж праз гэту атруту гіне людзей, колькі сварак, нязгоды яна прыносе ў нашы бедныя хаты! Ня раз выяжджаючаму гаспадару на кірмаш жонка прыказывае: глядзі не прапі грошай, а купі тое. Але рэдка здараюцца такія гаспадары, якія выконваюць прыказ жонкі. Большасьць такіх, калі прадасьць што-небудзь на кірмашы, то знайшоўшы сабе сяброў прап'е ўсё да граша і вяртаецца да хаты толькі з песенькамі, а жонка тады прывітае качаргой, нараканьнямі і праклінаньнямі; дзеткі галодныя не атрымаўшы гасьцінца ад таты пойдуць на печку заліваючыся сьлязамі. То-ж добра калі хоць так прыедзе дамоў, але бываюць выпадкі, калі п'янога зловіць паліцыя добра памучае і яшчэ аштрафуе. Я сам быў сьведкам калі паліцыя пераняла едучага сялянiна п'янога, і ўзлежшы паліцыянт на воз каб утрымаць п'янога душыў яго каленьнямі топчачы па грудзях. Ды няма сумліву, што завёўшы яго на „posterunek" далі добрую „лазьню".

Дык хто-ж тут вінават?!

Не адрэчы будзе сказаць пару слоў і аб нашых мяшчыкох Радашкоўскіх.

Я дык часта дзіўлюся, дзеля якой карысьці п'юць гарэлку людзі? Адно, што яна горкая, другое чалавека робіць жывёлінай, трэцяе дарагая і г. д.

Ня раз бачу, як нашы Радашкоўцы ходзяць абарваныя, паўголыя і паўбосыя, відаць, што на гэта шкадуюць грашэй, аднак-жа на гарэлку не шкадуюць, бо ня толькі ў дні сьвяточныя можна сустрэць цэлыя тоўпы п'яных, але навет і ў буднія дні, праз што пападаюць на „posterunek" і плацяць штрафы (бо забываюць, што пасьля 10 гадз. хадзіць ўжо ня можна). Ужо ня дзіва што моладзь п'е, бо кажуць весялей скакаць на вечарынах, але чаму п'юць людзі паджылыя, ці-ж ім бадзёрасьць патрэбна? Не ў адным з мястэчак у якіх я быў у Зах. Беларусі такое п'янства не заўважаецца між мяшчан, як у Радашкавічах.

Наш пясьняр Я. Колас, кажа: „Селянін п'е гарэлку дзеля таго каб гора забіць і бяду ўтапіць у гарэлцы". Але мне здаецца, што трэба шукаць іншага лякарства на гора, бяду і нядолю.

Ці-ж ня лепш было-б каб наш селянін і наша моладзь занялася-б чытаньнем газэт і кніжак беларускіх, вось там-бы знайшлі той шлях, які вядзе да лепшай долі, там заўсёды будзе напісаны шдях паказваючы дзе ёсьць лепшая доля. Дык Браты, Сяляне і Мяшчане кіньце тапіць нядолю ў паганай гарэлцы, бо якраз у гарэлцы і расьце нядоля. Лепш чытайце роднае слова, а пабачыце, што хутка ўцячэ ад нас нядоля. Марвіч.

### Цяжкое жыцьце беларускага селяніна.

Жыцьцё беларускага селяніна, як фізычна так і духова, зьяўляе сабой не свабоднага чалавека ў 20 культурным сталецьці, а нейкага старадаўнага нявольніка, пазбаўлянага волі, і зусім залежнага ад пана.

Каб ня быць галаслоўным, я раскажу аб жыцьці аднага нявольніка, сучаснага капіталістычнага сьвету, аб селяніне А. Б з вёскі Б. Несьвіскага павету, які ёсьць справядлівы, сумленны, цьвярозы чалавек, а галоўнае заядлы ратай, на жаль пазбаўлены магчымасьці праявіць свае здольнасьці, бо мае ўсего $2^1/_2$ дзес. зямлі, якую дастаў пасьля падзелу з братамі, з якое належыць паўтары дзес. залічыць да непрыдатнай. З будынкаў яму нічога не дасталося.

Астаўшыся круглаю сіратою, селянін А. Б. са сваіх малых дзён мусіў цягацца па сьвеце пры гэтым, адведаў усе „дасканальнасьці" дваровае службы.

Пасьля ваеннае службы А. Б. прыняўся за сваю гаспадарку, дзе за 17 гадоў цяжкае працы, страціўшы здароўе дажыўся да таго, што ўсяго мае 1 каня, адну кароўку, адну цялушку, тры авечкі і дзьве курыцы. З будынкаў мае хатку, гумянцо і хлеўчык, на якія як паглянеш, дык сэрца самлее ад жалю.

Збор леташняга ўраджаю аблічаецца на 70 пудоў збожа, 120 пудоў бульбы і тры вазы сена. Сям'я яго складаецца з жонкі і чацьвёра дзяцей.

Даходы А. Б. меў гэтакія: зарабіў фурманкаю 65 зл., дзеці прадалі ягадаў на 10 зл., прадана тры курыцы па 3 зл., а разам усяго даходу меў — 84 зл. Выдаткі А. Б. меў гэтакія: падаткаў заплаціў — 15 зл., на школьныя прылады для дзяцей выдаў 7 зл. і на гэтакія неабходныя рэчы як дровы — 20 зл. а на абутак 40 зл., дык на ўсе гэтакія выдаткі як соль, газа і т. д. астаецца ўсяго 2 злоты.

Пры гэтакім гадавым бюджэце няма чаго думаць аб направе, дык і ясна, што сьвет культуры ня можа пранікнуць у хату селяніна, каб сваімі цёплымі праменьнямі сагрэць яго гаротнае жыцьцё. *К. М.*

### „Добры солтыс".

(Нізаўцы, Уселюбскай вол., Навааградзкага пав.).

У нашай вёсцы ёсьць солтыс. Заседзіўся ён у нас ад самай вайны і так распанаваўся, што проста радачкі няма. Ня толькі абіралі яго на солтыства людзі, колькі ён сам сябе, бо надта язык добры мае. У першых гадох зьбіраў падаткі як сам хацеў. Занясе адныя, ідзе па другія. Прыдзе ў вёску дый крычыць: нясіце скарэй падаткі, бо прыдзе войт апісываць. Не сьцярпеў адзін жыхар з нашай вёскі Базыль К—а і кажа: няма замірэньня гэтым падаткам. Як дачуўся аб гэтым солтыс ды і наваліўся на селяніна. „Ты ведаеш, psia krew, хто я ёсьць, кажа ён, а сам гарэлкай сьмярдзіць як той чоп, я ёсьць солтыс Rzeczypospolitej, а ты хам, я Мікалай" (расейскі цар). Дый ізноў узяўся за падаткі, а ў удавы Ганны Пончыхі на 12 злотых перабраў. Пашла баба да заступніка войта Пісарэвіча на скаргу. Тады солтыс вярнуў частку перабраных падаткаў, але ўсё-ж такі ўдаву лаяў колькі хацеў. Таксама перабраў ён падаткаў і ў Юркі Чырвонага, на 8 зл. Але гэты Юрка надта ваёны, дык мусіць солтыс яго пабаяўся і таксама частку перабору вярнуў. Калі гэты Юрка пашоў адбіраць грошы дык солтысіха Ганна спаткала яго такімі славамі: мусіць падатак прынёс, што турбуеш солтыса. Відаць, што надта ей смакавалі падаткі, калі здарыцца каму якая справа ў воласьці, дык так і рыхтуйся добра напаіць солтыса, а апрача таго даць „сухой арэнды" залатовак 20.

## НАШАЯ ПОШТА.

**Янку Бахару:** Адзін зл. атрымалі; газэту ўвесь час пасылаем. З прэтэнсіямі зьвярніцеся на пошту ў Наваградку.

**Цярпліваму:** Вершы маюць маленькія недахваты, але друкаваць можна.

**С. Пяюну:** Камэдыя друкуецца ў зборніку тэатральных твораў. Жарты прысылайце. Дзіцячы аддзел вельмі пажаданы, але на перашкодзе стаіць наш фармат газэты.

**М. Доўбні:** Матэр'ялы атрымалі. Адказ паслалі лістом.

**Ш-ку Васоўскаму:** Вашыя творы не зьмяшчаем. Беларускіх часопісяў цяпер ёсьць так многа, што трудна будзе Вам усе выпісаць, ды і ня варта, бо шмат з іх займаюцца баламуцтвам.

**М. Жуку:** „Лубін" друкуем. Што значаць: лікі ў сыстэме кэльнэравых адзінак? Пішыце ў гаспадарчы аддзел ахвотна будзем друкаваць.

**Мацуку Мікалаю:** Даўнасьць на нашых землях пад Польшчай лічыцца паводле старых расейскіх законаў.

**Пацкевічу В. і Міхайлову Р.**—Праграму і інструкцыю паслалі.

**Керногаму М., Насэвічу Ів., Бябашу Я., Зелянеўскаму Ів.**—газэту пасылаем.

**Дасталі ад:**

Жука Івана, Сенькі Ўладзіміра, Ёды Базыля, Томкі Івана, Сяткоўскага Івана—**па 2 зл.**

Шкунціка Б., Малікоўскага, Шырокіна Б., Зязюлі К., Незнайкі М., Мацюка Б., Карногіна А., Башкінацкага В. — **па 1 зл.**

## Кутох сьмеху і сатыры.

### Мужанскае непаразуменьне.

Муж: Забараняю табе, станоўка, абразаць сабе валасы без майго дазволу!

Жонка: А ці ты ў мяне пытаўся, калі лысеў?

### Сумленнае ўжываньне лякарства.

— Чаму гэтак трасеш дзіця?

— Бо забыўся перад даваньнем патрасьці лякарства.

### У парыкмахера.

— Чаму гэты сабака глядзіць пану на рукі?

— Ат! нічога важнага! Гадзіна назад, як я няхочучы адрэзаў гасьцю вуха. Сабака зьеў і цяпер шэльма чакае на другое.

### Датрымаў слова.

— Прыраклі мне, што падчас работы ня будзеце курыць люльку.

— Я памятаю аб гэтым, і калі закуру люльку, дык адразу перастаю працаваць.

* * *

— Мамачка, чаму ты гэткая прыгожая?

— Таму, што як была дзіцям, заўсёды была пачціваю.

— Дык тата быў вельмі непачцівы, ці гэтак?

## БІРЖА.

Вільня, 14.III. 1927 г.

ВАЛЮТЫ:

| | |
|---|---|
| Даляры . . . . . . . . | $8.92^1/_2$—$8.93^1/_2$ зл. |
| Рублі зал. (10 р.) . . . . | 47.30—47.35 „ |

ЗБОЖЖА, ЗЕМЛЯРОБ. І ІНШ. ПРАДУКТЫ:

Вільня, 11.III. 1927 г.

| | |
|---|---|
| Жыта за 100 кг. (6 пуд.) . . | 43.00—44.00 зл. |
| Авёс „ „ . . | 39.00—40.00 „ |
| Ячмень брав. „ . . | 39.00—40.00 „ |
| „ на кашу „ . . | 00.00—00.00 „ |
| Пшаніца „ . . | 50.00—51.00 „ |
| Сланіна тутэйшая I гат. 1 кг. . | 4.00—4.20 „ |
| Клустасьць свінная „ . . | 4.50—4.70 „ |
| Масла несал. за 1 кг. . . . . | 7.00—7.60 „ |
| „ салён. . . . . . . . . | 5.50—6.00 „ |
| Сьмятана за 1 літр . . . . . | 2.20—2.40 „ |
| Тварог „ . . . . . . | 1.00—1.50 „ |
| Яйкі за 1 дзес. . . . . . . | 2.40—2.50 „ |

## СЯЛЯНЕ!

Аб усіх крыўдах, аб зьдзеках адміністрацыі і аб вашым жыцьці пішыце ў сваю газэту „Сялянскую Ніву".

Рэдактар і выдавец К. Мацкевіч.

Беларуская Друкарня ім. Ф. Скарыны, Вільня—Людвісарская 1.